ская тэрыторыя перэйшла на усходні бераг ракі Наровы.

### Патрыархат у Расеі

«Germania» пішэ:

Пад час унутрэнага развалу гасударства і пасьля утраты магутнай паддзержкі сьвецкай уласьці, з якой заўсёды карыстала расейская Цэрква, у Маскве адбыўся усерасейскі царкоўны сабор. Між яго пастановамі найвялікшую вагу мае бязспорна аднаўленьне патрыархату, скасаванага гвалтам Пятром Вялікім. Асабліва стаяў за гэта астраханскі ўладыка Мітрафан, даводзячы патрэбы у праваслаўнай Цэркві і ахвоты народу бачыць найвышэйшую духоўную уласьць у асобе выдатнай адзінкі. Супроць патрыархату выступіў праф. Кудрявцэв, ды паддзержывалі яго лібэральные прафэсары Духоўнай Акадэміі, старонікі больш сьвецкаго духу у Цэрцві. Асабліва энэргічна выступаў праф. Эрэмміляреві, аўтор вядомай стацьці «Уваскрэсаючая Візанція» у «Кіеўск. Мысьлі». Гэтак у расейскай царкоўнай мысьлі выступіла навука Толстога. Адпак, с прычыны скасаваньня новым расейскім урадам становішча обэрпракурора Сьв. Сыноду, перавагай галасоў, пададзеных за патрыархат, было блізка аднаглушна пастаноўлено уматаваць сабор да выбару патрыарха, каторы павінен быць першым памеж роўных яму біскупаў, мае вясьці усе царкоўные справы і даваць справаздачу сабору. Пасьля прыступілі да выбараў. У цэркві Спасіцеля у Маскве спаміж трох кандыдатаў выбран за патрыарха маскоўскі мітрапаліт Ціхон. 21 лістапада ён заняў свой пасад. Патрыарх будзе жыць у Маскве. — Гэта — вялікі крок уперод у жыцьці праваслаўнай Цэрквы.

## З усяго сьвету.

ПАРЫЖ. „Temps" пішэ:

Францускі урад прызнаў незалежнасць Фінляндзкай рэспублікі.

ШТОКГОЛЬМ. Шведзкі кароль, згодне с пастановай міністэрства с 4 студня, прызнаў Фінляндзію за незалежную дзержаву.

БЭРЛІН. Дэпутаціі сыоністаў памочнік статс-сэкрэтара дзела заграпічных спраў сказаў:

«Мы з радасьцю вітаем думку турэцкага ураду даць мейсцовае самаупраўленьне Палестыне у межах турэцкіх законаў».

БЭРЛІН. Члены эгіпецкай нацыональнай партыі у Бэрліне паслалі у Брэст-Літоўск заяву, жадаючы вызваленьня Агіпту на аснове самаазначэньня нацыональнасьцей.

ПАРЫЖ. «Humanité» пішэ: Соцыялісты падалі у парлямэнт сваё жаданьне, каб Францыя прылучылася да расейска-нямецкіх перэгавораў. Пад жаданьнем гэтым падпісаліся 115 дэпутатаў.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Рабочая партыя на партыйным з'ездзі будзе разглядаць гэткую праграму: новы грамадзкі лад павінен быць заснован на коопэрацыі і раздзелі пры роўнай для усіх волі; абмежаваньня асоб, народаў або колоній адкідаюцца; мытные падаткі у якой-будзь форме ня могуць быць прызнаны, а замест іх павінен быць устаноўлен падатак с капіталу.

ШТОКГОЛЬМ (В.Т.Б.). Брандінг с прычыны хваробы прасіў аб адстаўку. На яго мейсцо назначэн соцыяліст Торсэн.

МАДРЫД. Кароль выдаў дэкрэт аб роспуску парлямэнту. Новые выбары назначэны на 17 лютага, адкрыцьце новага парлямэнту — на 11 марца.

БЭРЛІН. У асьведомленых кругах аповешчаюць, што Рэйхстаг будзе созван толькі у пачатку лютага.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкія аповешчэньня:

4. I. Заходні тэатр:

Блізка на усенькім фронці — вострые артылерыйскіе бітвы. У стычках на усходзі ад Іпра і на поўначы ад Лябасса, ды на паўдзенным усходзі ад Мэвр і у Шампані узяты палонные і кулемёты.

Ад 1 студня нашы ворагі утрацілі 23 самалёты і 2 прывязные лятучые шары.

5. I. Заходні тэатр:

На фронці у Фляндрыі, на усходзі ад Іпру, між Скарп і Сомм, у ваколіцах Авокур і С. Міель — вострые артылерыйскіе бітвы. На усходзі ад Білікур у часі разведкі узята у палон вялікае число англічан.

6. I. Заходні тэатр:

Францускіе наступленьня у Шампані адкінуты штыкамі. Пры Жівэнкур, Авокур і Бэзонво узята многа палонных і некольк кулемётаў.

4 і 5 студня у бітвах на паветры збіта 15 варожых самалётаў і 4 прывязные лятучые шары.

Італьянскі тэатр.

Наабапол Брэнты, у ваколіцах Томба і Монтэлло — артылерыйскіе бітвы.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ЖЭНЕВА. Францускіе мінімалісты (меньшэвікі) выставілі першы раз жаданьне зара пачаць мірные перэговоры і далучыцца да перэгавораў у Брэст Літоўску.

Пад націскам грамадзянства францускі урад, здаецца, пазволіць соцыялісту Тома паехаць у Пецярбург, каб завязаць там зносіны з большэвікамі.

ЛОНДОН. Францускі міністэр-прэзыдэнт Клемансо пішэ у «Daily Mail»:

«Мы ніколі не паложым аружжа. Да гэтага прымушае нас памяць аб нашых пагібшых ваяках. Наша палажэньне — лепшае, чым калі-колечы».

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). Прэзыдэнт Вільсон паслаў Лл. Джорджу тэлеграму, у каторай між іншым гаворыць:

«Ад імі майго народу я ешча раз пацьвярджаю, што Злучаные Штаты прадцягіваюць сваю руку і акажуць усялякую помач, каб дайсьці пачэснага і трываляга міра».

ЛОНДОН. Дэпутат Годж заявіў у Ніжняй Палаці, што за мінулый год англічане утрацілі 850.000 душ, а ад пачатку вайны — больш за 2 мільёны, у тым ліку 750.000 забітых.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Ад 20 лістапада да 2 студня толькі на полі бітвы пры Камбрэ англічане утрацілі 227 афіцэраў і 9.600 салдатаў палоннымі. Здабыты 172 гарматы, 724 кулемёты і 19 мінамётаў. Апрыч таго узяты назад 32 нямецкіе гарматы, утрачаные пры першых удачах англічан. З 300 панцырных самаходаў, пушчаных у ход, англічане утрацілі 107, у тым ліку 75 за нямецкімі лініямі, а 32 лежаць разбітые між нямецкім і англіцкім фронтам. Гэтак англічане утрацілі больш за чацьвёртую часць усіх панцырных самаходаў, быўшых у англіцкай арміі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У каналі Сьв. Юр'я і Брыстольскім каналі нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі 7 параходаў і 1 парусьнік, разам 24,000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). У усходняй часьці каналу Ляманш нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі 21.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі у каналі Ляманш 32.000 тонн.



Друкавана у друкарні М. Кухты. [illegible] Рэдактар Язэп Салавей